Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 22. Вільня, 13 жніўня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Вільня і беларусы.

Апошнімі часамі, ў зьвязку з прыездам у Вільню Маршалка Пілсудскага, а таксама і ў зьвязку з тым, што прафэсар Ковенскага унівэрсытэту I. Гэрбачэўскі зьмясьціў у польскай прэсе цэлы рад цікавых артыкулаў аб патрэбнасьці эканамічнае і палітычнае згоды паміж Літвою і Польшчаю, ізноў выплываець справа лёсу Вільні, якая стаіць на перашкодзе гэтай польска-літоўскай згодзе. Ці меў, ці ня меў праф. Гэрбачэўскі пэўную місію ад літоўскага ўраду Вальдэмараса, для перагавораў з польскім урадам, істота справы ад гэтага не мяняецца. Думкі праф. Гэрбачэўскага зьяўляюцца адбіткам настрояў і думак пэўнае, найбольш разумнае, часткі літоўскага грамадзянства, якое ўжо зразумела, што далейшая палітычная і эканамічная ізоляцыя Літвы ад Польшчы можа прывясьці на край сьмерці самую ідэю незалежнасьці Літоўскае дзяржавы.

— «Літва ўжо разумееь, што моцная Польшча ёй патрэбна, бо калі яна будзець адпіхнута на лінію Кэрзона, то ад літоўскае дзяржавы застанецца адна толькі легенда...

— Усім у Літве ўжо надаела эканамічная ізоляцыя ад Польшчы і залежнасьць ад нямецкіх купцоў» — так гаворыць праф. Гэрбачэўскі, ліцьвін, пераканаты прыхільнік польска-літоўскае згоды.

Якую пазыцыю мусіць заняць беларуская нацыянальная думка ў справе польска-літоўскага паразуменьня? Гэтае пытаньне настолькі важнае для беларусаў, што абайсьці яго немагчыма. Важнае яно перш за ўсё з пункту гледжаньня эканамічнага, з пункту гледжаньня гаспадарчага адраджэньня нашага краю, у якім пераважную большасьць вясковага насельніцтва складаюць беларусы.

Калі эканамічны заняпад Літвы тлумачыцца, галоўным чынам, ізоляцыяй Літвы ад Польшчы, то, з другога боку, Віленшчына таксама шмат траціць на тым, што ня маець доступу да Клайпэды, ня можа сплаўляць свайго лесу праз Нёман, ня можа нармальна гандляваць і быць тым, чым была Вільня — эканамічным цэнтрам усяго літоўска-беларускага краю.

Разам з Віленшчынаю трацяць і беларусы, і таму, з пункту гледжаньня эканамічнага, паразуменьне Літвы з Польшчаю вельмі пажадана і для беларусаў. Пажадана гэтае паразуменьне і з пункту гледжаньня палітычнага, бо паразуменьне паміж народамі нашага краю, кожны крок да іх супрацоўніцтва, павінен вітаць кожны незалежнік, бо толькі ў гэтым супрацоўніцтве знайдуць народы нашага краю грунт для свайго адраджэньня і сілы, для абароны проціў ворагаў. Але, прыхіляючыся да польска-літоўскае згоды, беларусы мусяць, апра-

ча таго, паставіць і ўсе кропкі над і. Беларусы павінны голасна сказаць, што Вільня і Віленшчына наагул зьяўляецца ў той-жа меры беларускаю, як літоўскаю і польскаю. І гістарычна, і эканамічна, і этнографічна абшары навакол Вільні — у большасьці сваёй — абшары беларускія, і беларусы маюць нісколькі ня меншае, калі ня большае права на Вільню, ніж ліцьвіны. Гэта нічога, што Беларусь сягоньня падзелена і беларуская дзяржава ня істнуе. Дванаццацьмільённы беларускі народ будзе яе мецъ!

Дык вось, калі літоўцы і палякі ўзапраўды хочуць згоды паміж сабою і супрацоўніцтва, то яны павінны цьвёрда сабе ўдяміць, што дабіцца гэтае згоды коштам беларусаў яны ніколі ня могуць.

Калі згода, то згода і ня толькі паміж ліцьвінамі і палякамі, але паміж усімі народамі нашага краю, у якім беларусы зьяўляюцца ў большасьці. Калі шлях да польска-літоўскага паразуменьня вядзе праз аўтаномію, то мусім дамагацца аўтаноміі для ўсіх абшараў, заселеных у Польшчы беларусамі, палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам якіх зьяўляецца Вільня. Выдзяленьне аднае Віленшчыны было-б новым падзелам беларускіх земляў, новаю ранаю на жывым целе беларускага народу, з чым мы ніколі не пагодзімся.

У Вільні стык нацыяў. Вільня — ня толькі цэнтр польскага нацыянальнага руху, ня толькі цэнтр літоўскага адраджэнскага руху, — у Вільні пачаўся таксама і адраджэнскі рух шматмільённага беларускага народу, якога з гэографічнае карты ня скрэсьліш.

І вось, калі гаворыцца сягоньня аб Вільні і яе лёсе, то беларусы могуць сказаць толькі адно: Мы маем усе правы на тое, каб Вільня была таксама нашым нацыянальным цэнтрам. Мы будзем да гэтага імкнуцца і мы гэтага дасягнём. Палякам і ліцьвіном мы кажам: вашае паразуменьне магчыма толькі тады, калі яно будзе шчырым імкненьнем да паразуменьня і супрацоўніцтва ўсіх народаў нашага краю—цэнтрам якога павінна быць Вільня—польска-беларуска-літоўская Вільня.

## Аб прамове Маршалка Пілсудскага.

„Мы цяпер жалімся на вялікі лік партыяў, а што ўжо казаць аб тых часох, калі партыі складаліся з 4 — 5 чалавек, сабраных у якім-небудзь шынку, каторыя ўжо лічылі сябе за партыю, адмаўляючы ўсім іншым ня толькі ў якой-небудзь вартасьці, але робячы з іх зладзеяў і заяўляючы, што за ніякую цану, за ніякія скарбы сьвету, пад ніякімі варункамі не пайдуць разам побач аднэй сьцежкай з усімі іншымі, апрача іх пяцёх“.

Словы, вышэй надрукованыя, былі сказаны Мар-

## Аб патрэбе грамадзкага узгадаваньня.

II.

Дзяржавы ў нашыя часы пабудованы на сужыцьці тых, што прадаюць сваю працу і тых, што яе куплеюць. Малая частка насельніцтва мае вялікія варстаты працы і наймае тых, якіх адным багацьцем зьяўляецца працаздольнасьць. Такое-ж права куплі-прадажы: найтаньней купіць і як найдаражэй прадаць. Вялікая кляса работнікаў прадае сваю працу, прадаюць яе і сяляне. Але работнікі лепш навучыліся прадаваць гэную сваю працу, яны лепш арганізованы і ўжо адчуваюць сваю вартасьць, як кляса.

Тыя групы, што даюць сваю працу за права на жыцьцё, за кусок хлеба, павінны ведаць, што грамадзкім жыцьцём кіруе адлаўна закон: „У барацьбе здабудзеш сваё права“. Бо ніхто бяз прынукі, без патрэбы правоў сваіх ня ўступае. Кожны імкнецца да асабістае карысьці.

Але каб здабываць сваё права ў барацьбе, праўным змаганьні, якое, паводле польскае конституцыі, магчыма, трэба перш за ўсё адчуць сваю крыўду, пазнаць сваю вартасьць, як грамадзкае сілы і групы, ды на кожным кроку вясьці змаганьне за належнае сабе права.

Констытуцыя 17 сакавіка 1921 г. як-бы прадбачыла патрэбу такога змаганьня, бо ўсё жыцьцё чалавецтва—гэта змаганьне за лепшую долю і праўду, і вось у 108 параграфе паказвае шлях, ідучы па якім можна дабіцца зьдзейсьненьня свайго права.

„Грамадзяне маюць права коаліцыі (гуртаваньня), сабраньняў і закладаньня таварыстваў і саюзаў“ (п. 108).

Адзін чалавек, ведама, малая сіла. Заўсёды на сьвеце, пры кожным грамадзкім ладзе, шмат няпраўды, бяспраўя і вызыску. У барацьбе з гэтымі злыбедамі, ў палепшаньні свае долі, мала можа зрабіць адзін чалавек. Але, згуртаваўшыся ў таварыствы, злучыўшы гэныя таварыствы ў Саюзы, калі ўсе сябры гэных таварыстваў будуць імкнуцца да лепшай долі ды пачнуць змагацца з бяспраўем і грамадзкімі злыбедамі, дык разам змогуць дабіцца прызнаньня належных сабе правоў і папраўляць свой быт.

Калі зьвернемся да жыцьця, то ўбачым усюды,

шалкам Язэпам Пілсудскім, у Калішы 6 жніўня сёлетняга году, на зьездзе легіянэраў, і датычаць таго часу, калі ён, пасьля выхаду з Магдэбурскай турмы, як Начальнік Польскае Дзяржавы, спаткаўся з польскім грамадзянствам.

Гэтыя словы вялікага барацьбіта за незалежнасьць Польшчы, як і наагул уся яго прамова, зьмяшчаюць у сабе шмат думак, над якімі ня шкодзіла-б бліжэй затрымацца і нашаму беларускаму грамадзянству. Чытаючы гэну прамову, ў пэўных момэнтах здаецца, што гэта гаворыць патрыёт беларускі да сваіх братоў беларусаў. Вобразы таго хаосу, той нэразьбярыхі, тых партыяў і гурткоў, закладаных у шынкох пяцьма чалавекамі, гэная залежнасьць палітыкі іх ад розных чужацкіх агэнтур — гэта-ж усё вобразы проста жывымі ўзятыя з сучаснага беларускага жыцьця, з тэй толькі хіба розьніцай, што партыі нашыя іншы раз складаюцца з дзьвёх альбо з адной толькі асобы!

А гэныя лаянкі, гэнае апаганьваньне адзін аднаго ў прэсе, бязупынныя закіды адзін аднаму здрады, правакацыі, усё гэта — горкая наша сучаснасьць. Польскі патрыёт кінуў горкую праўду ў вочы польскаму грамадзянству, рысуючы прад ім воблік яго ў мінулыя гістарычныя дні. Чалавек гэткай меры, як Пілсудскі, ня прывык скардзіцца. І словы яго — гэта ня скарга перад сваімі аднадумцамі, з каторымі 13 год таму назад злучыла яго супольная ідэя і супольна пэражытыя цяжкія хвіліны змаганьня за незалежнасьць Польшчы.

І гэную горкую праўду Язэп Пілсудскі сказаў не для таго, каб выліць свой боль і жаль, не дзеля таго, каб адтрымаць воплескі сабраных на зьезьдзе легіянэраў, а прамова яго зьяўляецца рэзультатам глыбокага пераканаьня, што ў імя тэй ідэі, якой ён пасьвяціў усё сваё жыцьцё, трэба было сказаць усё тое, што ён сказаў у сваёй прамове. Словы яго, як лянцэт хірурга, адчынілі балячкі затручваўшыя тагочасны арганізм польскага грамадзянства. У прамове сваёй Вялікі барацьбіт за незалежнасьць Польшчы сказаў свайму грамадзянству, што будаваць Бацькаўшчыну ня можна, падпарадкаўваючы інтарэсы народу інтарэсам паасобных адзінак і партыяў, ён сказаў далей, што, будуючы яе, трэба верыць у свае ўласныя сілы, ў сілы свайго народу і вызваліць душу сваю з налёту няволі.

І гэную горкую праўду польскаму народу меў права сказаць і павінен быў сказаць яе толькі Язэп Пілсудскі. Але гэная праўда датычыць ня толькі Польскага народу.

Хто хаця трошкі знае сучаснае беларускае грамадзкае жыцьцё, той зразумее, як блізка гэныя словы датычаць нас, беларусаў.

І ўсім, у чыіх грудзёх б'ецца беларускае сэрца, каму найвялікшым скарбам зьяўляюцца ідэалы беларускага народу, трэба добра памятаваць словы вялікага барацьбіта за незалежнасьць польскага народу трэба добра памятаць, што, ставячы інтарэсы паасобных адзінак і партыяў вышэй за інтарэсы беларускага народу, разьбіваючы яго на гурткі і гурточкі, высоўваючы на першы плян тое, што нас дзеліць, а ня тое, што злучае, паганячы адзін аднаго ў вачох шырокіх масаў беларускага народу, ня можна будаваць свае Бацькаўшчыны!

---

кругом нас, згуртованых людзей, якія разам, у цеснай лучнасьці, працуюць над палепшаньнем жыцьця. Саюзы рабочых, працадаўцаў, асьветныя, культурныя таварыствы, вялікія гандлёвыя супалкі, — усё гэта арганізованыя па праву коаліцыі людзі, якім было-б не пад сілу йсьці да сваіх мэтаў у разброд, па адным.

Як-жа жыве нашае сялянства? Нажаль, сьцьвярджаем тут, што якраз дагэтуль беларуская вёска старанілася ад такой формы здабываньня сабе лепшае долі.

А якраз нашае сялянства апынулася ў такім палажэньні, якое выяўляе цэлы натоўп злыбедаў і нараканьняў.

Заходняя Беларусь аказалася пасьля вайны ў новых граніцах, якія зламалі выробленыя вякамі формы жыцьця. Дзеля недахопу зямлі, няўмеласьці гаспадараньня на ёй, неўраджайнасьці ўрэшце, з году ў год цэлыя масы сялянства выходзілі на Ўсход у б. Расею альбо ў Амэрыку і там знаходзілі заработкі. Цяпер гэтага няма. Вёска беларуская, пачынаючы ад 1921 г., павялічваецца ў ліку безработных, прад якімі замкнуты які-колечы адход з бацькаўскіх хатаў.

Зямельная рэформа 1920 г., якая мела памяншыць голад на зямлю і безработьцэ, праводзіцца туга. Цяпер ужо ў Польшчы і не гавораць аб зямельнай рэформе, а толькі аб хутарнай рэформе, якая нічога ня дасьць малазямельнаму беларускаму сялянству. Па-за межамі Польшчы асталіся нармальныя рынкі збыту, дзеля чаго ўва ўсходніх паветах бачым матар'яльны заняпад тых галінаў сельскай гаспадаркі, якія буйна жылі перад вайною — (садаводзтва ў Дзісьненшчыне).

Нельга замаўчаць тут практыкаваньні ўрадовага апарату, які ўвесь быў апанованы эндэцыяй і заняўся заданьнем не на сілу — апалячваньнем беларускіх масаў праз школу і касьцёл; усё гэта ставіць у першую чаргу вялікую патрэбу арганізацыі беларускага сялянства, якое толькі арганізаваўшыся здолее паправіць сваё палажэньне.

Ці польская конституцыя дае магчымасьць беларускаму насельніцтву арганізавацца на падставе свае нацыянальнай асаблівасьці?

Аб гэтым гаворыць 109 параграф: „**Кожны грамадзянін** мае права захаваньня свае нацыянальнасьці і аховы свае мовы і нацыянальных асаблівасьцяў. Асобныя дзяржаўныя законы забясьпечаць меншасьцям у Польскім Гаспадарстве поўнае і вольнае разьвіцьцё іх нацыянальных асаблівасьцяў пры

Нажаль, беларускі народ ня мае яшчэ свайго Пілсудскага, і голас кучкі палітыканаў, жыруючых па целе народу яшчэ мае послух у масах беларускага сялянства. Але ён прыдзе, мусіць прыйсьці Пілсудскі беларускага народу, і тады ўсе тыя „будаўнікі“, якія інтарэсы беларускага народу хочуць падпарадкаваць сваім асабістым альбо партыйным і спраўляюць торг над ідэаламі бел. народу, будуць выкінуты за борт грамадзкага і палітычнага жыцьця.

*У.*

# Як Сымон ашукаў начальства.

(*Гумарыстычнае апавяданьне з народнага жыцьця*)

У Сымона здарылася няшчасьце: захварэла кабыла. Вэтэрынар з суседняй вёскі аглядзеў кабылу і параіў, каб хутчэй даць ёй гляубэрскай солі, бо здохне. Сымон птушкай зьлётаў да мястэчка, купіў лякарства. Каб скарачаць сабе дарогу — ён зыйшоў з гасьцінца і ўвашоўшы ў пушчу, знаёмымі яму сьцежкамі, як той заяц, прабіраўся да хаты. І вось, калі ён быў больш як на поўдарогі ад яе, раптам чуе: „Эй, хто там, стой!“ Сымон затрымаўся, глядзіць: на палянцы стаіць стражнік, а далей за ім, разваліўшыся на траве, ляжаць: станавы прыстаў, земскі начальнік, яшчэ і яшчэ нейкае начальства, ўсяго разам пяць ці шэсьць асоб і тры сабакі. Сымон, убачыўшы начальства, зьняў шапку і пакланіўся.

— Ці ня ведаеш, чалавеча, як хутка да Курылаўкі выйсьці?—пытае начальства.

— Да Курылаўкі? як ня ведаць, вядома ведаю: Вось пойдзеце гэнай сьцежачкай, пасьля будзе ўзгорак, каля якога сьцежачка пойдзе адна направа, а другая налева, дык вы па тэй, што направа пойдзеце, а там зноў налева зьвернеце, а пасьля ізноў, каля сухой хвоі дарогі разыдуцца, а потым...

— Чакай, чакай! — закрычала туткі начальства і замахала рукамі. — Ты нам баек ня бай, бо ўсё роўна па твайму расказу дарогі не знайдзем, а лепш вядзі нас.

— Паночкі, дык як-жа мне весьці? Кабылка хворая, лякарства нясу, Божа барані, здохне; да хаты мне трэба, прасіў Сымон.

— Што, ня хочаш весьці? ах ты, бунтаўшчык!— зараўло не сваім голасам, пачырванеўшае ад злосьці, начальства.

Затрасьліся туткі рукі і ногі ў Сымона, і жаль балючы сьціснуў яго сэрца, хацеў кінуцца ў кусты і ўцякаць, але, нешта надумаўшы, усьмяхнуўся пад вусамі, спакарнеў і ўздыхнуўшы адказаў: — Ці-ж я адмаўляюся? вядома павяду, калі такі прыказ.

— Ну, ты, брат, *не рассуждай, а веди!* — сярдзіта буркнула начальства і ўстала.

Сымон павёў. Пакружыўшы трошкі ў пушчы, якую ён ведаў, як свае пустыя кішані, Сымон па вядомых яму сьцежачках павёў іх, заместа Курылаўкі, ў кірунку свае хаты.

— Ім нішто, бунтаваў у душы Сымон,—няхай пабадзяюцца па пушчы. Таму брухатаму можа трошкі бруха спадзе, яшчэ дзякаваць будзе. А мне, вось, кабылка прападзе, бяз сэрца народ.

Вёў ён іх мусіць гэтак гадзіны з паўтары. Бру-

---

падмозе аўтаномных саюзаў меншасьцяў публічна праўнага характару ў межах агульнага самаўраду“.

109 параграф польскае Конституцыі сьцьвярджае права беларускага насельніцтва быць беларусамі. „Захаваньне свае нацыянальнасьці і ахова свае мовы і нацыянальных асаблівасьцяў“, гэта тое, што складаецца на паняцьце Народу. Народ, які ня ўтраціў свае мовы, ніколі не загіне. Бацька нашага адраджэньня Фр. Багушэвіч заклікаў беларусаў, каб не пакідалі свае мовы, бо з зьнікамі мовы йдзе сьмерць Народу і ён становіцца як-бы толькі гноем для другіх народаў. Прызыў Багушэвіча датычыў пераважна інтэлігэнцыі, якая ў той час адыходзіла да Масквы ці да Варшавы. Маса народная, працоўныя вёсак, не маглі пакінуць матчынае беларускае мовы, бо толькі ў гэтай мове здолелі выражаць свае думкі і перажываньні.

Цяпер ужо гэныя масы не адны, як за Багушэвіча, з гушчы народу выйшла й разьвілася родная беларуская інтэлігэнцыя, якая разам з працоўным сярмяжным беларускім сялянствам імкнецца да лепшае долі для Беларускага Народу.

З году ў год узрастаюць рады барацьбітаў і працаўнікоў на палітычным і культурным полі за лепшую будучыну для Беларусаў. Зварухнулася ўрэшце беларуская вёска і места. „Захацелі людзьмі звацца“, як кажа наш народны пясьняр Купала.

Беларускія працоўныя масы могуць сьмела і адважна, не баючыся закідаў у процідзяржаўнай дзейнасьці разьвіваць сваю мову, усюды сьцьвярджаць сваю беларускую нацыянальнасьць і свае нацыянальныя асаблівасьці.

Асаблівасьцямі Народу зьяўляюцца абычаі, абрады, песьні, вопратка, ўрэшце характар.

Як добрае дзіця ніколі не выракаецца сваіх бацькоў, маці свае, што выкарміла, выпеставала яго, таксама добры грамадзянін ня можа вырачыся сваіх народных асаблівасьцяў: мовы, песьні, звычаяў.

Браты-сяляне, няма на сьвеце панскіх і мужыцкіх моваў, ёсьць толькі «панскія» хваробы. Няварт ніякае пашаны і павагі той, хто выракаецца і ня хоча знаць сваіх бацькоў дзеля таго, што яны сярмяжныя сяляне, таксама няварт пашаны і добрага слова той, хто губляе сваю матчыную мову, у якой першы раз загаварыў, прышоўшы на сьвет і ў якой навучыўся распазнаваць людзей.

Тыя, што хацелі-б беларусаў зрабіць палякамі ці расейцамі, самі перш за ўсё ня будуць шанаваць іх за здраду і адрачэньне ад роднае беларускае мовы.

хатае начальства зусім змарылася і ледзь валакло ногі, іншыя таксама замарыліся.

— Ці далёка яшчэ да Курылаўкі? — запытала брухатае начальства, — бо калі далёка, то трэба адпачыць.

— Ды не, ужо зусім блізка.

— А колькі будзе вярстоў?

— А так мусіць адна вярста з гакам.

— Адна вярста? ну то пойдзем далей.

Пайшлі, а туткі ўжо сонца села, у пушчы пачало цямнець.

Прайшло яшчэ паўгадзіны, ажно загарэліся зоркі на небе і ў пушчы зрабілася зусім цёмна.

— Ну што, далёка яшчэ?

— Ды не: ўжо во, во і Курылаўка.

Пачакайце, паночкі, тутака—я вось зьбегаю на той узгорак, пагляджу, можа ўжо і агні відаць будзе,— адказаў Сымон.

— Ну, бяжы!

Сымон пабег, зышоў з дарогі і адбегшы шагоў з чатыры сотні, пачуў сябе зусім бясьпечным і, затрымаўшыся, пачаў гукаць:

— Гоп, го-о-о-о-п!

— Гоп, гоп!—адклікнуўся яму здалёка голас начальства.

— Панэ, а панэ-э-э, ці вы мяне чуеце-е-е-е?! гукаў далей Сымон.

— Чуем, чуем! — даляцеў да Сымона адказ, паўтораны рэхам.

— А ці добра мяне чуеце-е-е?

— Добра чуем! А што Курылаўка? Відаць ужо?

— А ці кожнае маё слова чуеце-е-е?! — пытаў далей Сымон.

— Кожнае слова чуем!—зноў прыляцеў адказ.

— Калі добра чуеце, дык пацалуйце ў нос сабаку! — крыкнуў на ўвесь лес Сымон і бягом кінуўся да свае хаты, а за ім сьледам доўга яшчэ нясьліся крыкі бясьсільных у сваёй злосьці людзей.

*Шастун.*

## Уніоністычны конгрэс.

Сёлета адбыўся ў ліпні на Велеградзе ў Моравіі (Чэхаславаччына) пяты па чарзе уніоністычны конгрэс. Мэтай конгрэсу ёсьць справа абʼяднаньня дарогай уніі Усходняй (праваслаўнай) і Заходняе (каталіцкае) Царквы. Справа уніі зьяўляецца для нас, беларусаў, палючай справай, дзякуючы таму, што унія на нашых землях павінна адыграць ролю ня толькі рэлігійнага значэньня, а і нацыянальнага. Мы бачылі спробы правядзеньня уніі, ня толькі бяз удзелу беларускага грамадзянства, а проста бачылі, як унію праводзілі ў значнай меры дзеля таго, каб беларусаў дэнацыяналізаваць.

У конгрэсе ўзялі гарачае учасьце беларусы ў асобах: кс. А. Цікоты — прыора кляштару Марыянаў у Друі, кс. д-ра І. Рэшаця з краю, кс. кс. Фр. Чарняўскага і Леоша з Рыму, Клімовіча і Фр. Грышкевіча, студэнта філёзофіі, маладога песьняра з Прагі. Без беларускага духавенства, бяз выразнага падкрэсьленьня беларускага характару уніі на беларускіх землях, усялякія уніоністычныя пачынаньні ня будуць мець пасьпеху. Аб гэтым даволі ўжо ўсе пераканаліся з пачынаньняў арх. Марозава і іншых людзей, якім нічога не ўдалося зрабіць, бо яны—чужыя нам.

Конституцыя, дазваляючы беларусам разьвіваць мову і звычаі, сьцьвярджае, што ня можа быць ніякае прынукі, каб выракацца, пакідаць матчынае слова.

Хто мае загарантованае законамі права захаваньня свае мовы, той ня можа зносіць зьдзекаваньня і насьмешкі дзеля гэтае мовы.

Дзеля таго, каб нас шанавалі, як народ, павінны мы самі шанаваць свае нацыянальныя асаблівасьці: беларускую мову, песьню, вопратку і звычаі. Інакш пашаны ад другіх не дабʼёмся, бо ня будзем яе вартыя.

Як-жа захаваць мову? Трэба ўсюды гаварыць пабеларуску: дома, ў краме, у ўрадовых установах, са знаёмымі і незнаёмымі, у горы і вясельлі, — усюды мусім выяўляць свае думкі найлепшым спосабам, каб нас найлепш усякі зразумеў. Жывём мы з дзядоў і прадзедаў на сваёй зямлі і ўрадоўцы інтэлігенты іншых нацыянальнасьцяў могуць нас зразумець, хай толькі захочуць, а калі-б ахвоты гэнай ня мелі, мы, маса сялянская, можам абыйсьціся і бяз іх дурнога шовінізму, удаючыся да тых дахтароў, адвакатаў і інш., якія ня будуць змушаць селяніна гаварыць на чужой для яго мове.

Далей трэба вучыцца свае мовы, старацца якнайчысьцей, найпрыгажэй гаварыць пабеларуску, пісаць у роднай мове пісьмы, дагаворы, вясьці рахункі і вымагаць, каб суседзі гэтак сама рабілі. Трэба чытаць беларускія кніжкі і газэты, плаціць за часопісі падпіску, дбаць, каб выдавецтва магло выдаваць патрэбныя для сялянства выданьні пры дапамозе і падтрыманьні сялянскае масы. Іншыя народы, як чэхі, фіны, літоўцы і украінцы, нашыя найбліжэйшыя суседзі ўжо гэта зразумелі. Сваімі сіламі вытварылі багатую літэратуру ў роднай мове, вучацца з кніжак у зразумелай мове, дык лепш, багацей жывуць і пашану маюць большую.

Кожны Чэх, ці Фін работнік і селянін выпісвае не адну, а некалькі часопісаў, мае ў сябе дома бібліятэку, пасылае на газэты грошы, бо разумее, што толькі ў роднай мове найлепш зразумее тое, што пішацца, а зразумеўшы, мудрэй, ляпей павядзе гаспадарку.

Тое самае мусім рабіць і мы, калі ня хочам жыць у бядзе ды ўціску.

*Саўліч.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Увагі аб мяшанках.

Мэта сяўбы мяшанак мае шмат бакоў. Усюды мяшанкі сеюць, як зялёны гной пад акопныя, часткай пад авёс, але бывае, што іх гадуюць на пашу. У залежнасьці ад таго, што хочам адтрымаць, сеючы мяшанку, а гэтак сама і ад варункаў грунту, на якім сеем яе, ужываем тую ці іншую расьліну або мешаніну розных расьлін. Наколькі магчыма, ўжываюцца матыльковыя расьліны, бяручы пад увагу іхнюю здольнасьць убіраць азот з паветра і вызначальнасьць іх сваім шпаркім і буйным ростам. На лёгкіх землях найчасьцей сеем лубін, на цяжэйшых бобік у чыстым засеве або ў зьмяшаньні з гарохам.

Каб мяшанка не ашукала кладзеных на яе надзеяў і ўдалася, трэба споўніць некалькі варункаў, а перш за ўсё: 1) сабраць якнайранеей жыта, гэта знач. расьліну, акая папярэджвае мяшанку; 2) адпаведна вырабіць зямлю пад засеў; 3) засеяць пэўную расьліну ці мешаніну і 4) засеяць у пару і адпаведна густа. Да менш важных варункаў трэба залічыць вельмі пажаданае датарнаваньне пад мешаніну адпаведнае порцыі штучных гнаёў, асабліва на землях, па прыродзе сваёй убогіх, ці выялавеных рабунковаю гаспадаркаю.

З ліку вышэйпералічаных варункаў і абмінутых тут—найбольш рашучым у сэнсе ўдачы мяшанкі ёсьць пара засеву, а ў рэзультаце гэтага і пара збору расьліны, якая папярэджвае мяшанку. Кожны дзень спазьненьня сяўбы мае вялікі ўплыў на агульны ўраджай зялёнае масы. Як правіла, трэба памятаць, што паколькі не засеяна мяшанкі да канца ліпня, дык яе ня трэба сеяць зусім. Аднак-жа, шмат траціць ужо той, хто засеў робіць пасьля 20 ліпня.

Жыта ў тым палетку, ў якім маюць пайсьці ў будучым годзе акопныя і па гэтай прычыне мае быць усеянай мяшанка, павінна быць скошана найранейі. Да касьбы жыта трэба прыступіць, не чакаючы аж пакуль зусім зьбялее салома і сьцьвярдзее зерне.

Калі зерне ўжо настолькі цьвёрдае, што, сьціснёнае ў пальцах, не раздушваецца, а расьцятае ногцем напалавіну—зьмяшчае ў сярэдзіне васкаватую (ня зусім белую) масу, дык трэба яго зжынаць, хаця салома пры каласох яшчэ і мае выразны зялёнкаваты адценак. У гэткім стане скошанае збожжа сохне павальней, трудней яго малаціць і яно не падходзіць на насеньне, але за тое дае добрую муку. Страты ў агульнай суме ўраджаю з гэктару зьяўляюцца мінімальнымі, значна меншымі, як страты ад высыпаньня пры зборцы сярэдня перастаялага на пні. Гэткае збожжа не павінна таксама ляжаць ані мінуты ў жмені дзеля дзьвёх прычынаў: дзеля таго, што раптоўна высахне пры гарачай пагодзе, а таксама дзеля таго, што марнуецца час. Тут-жа за жнеямі (ці касцамі) трэба вязаць жыта ў маленькія снапкі з папярэчнікам ад 8 да 10 цаляў і ставіць іх у дзесяткі, зьбіраючы іх як найболей на шырока расстаўленых лініях. Пры стаўляньні дзесяткоў трэба глядзець, каб снапкі ня

---

# Савецкі быт.

Як ні аднародна прэса ў Саветах, але часам з селькораўскіх апісаньняў вясковага быту на тым баку рыскае граніцы адтрымліваецца фотографічная адбітка запраўднага вясковага быту. Вось як, напрыклад, апісвае гэты быт сельскі корэспондэнт Кулякоўскага сельскага савету, Бешанковіцкага раёну ў Віцебшчыне:

### Глуш на пераломе.

„Тры гады ня быў я ў сваім родным кутку. Вялікі тэрмін у нашы дні і малы ў ходзе гісторыі. Але знаёмы родны кругавід зьмяніўся да няўзнаньня. Зьнiклі лясы, прысада па бальшаку радзее, а месцамі ўжо зьнікла абсада магільнікаў. Няхваткі апалу ўзбудзілі спрадвечны пакой могільнікаў грукам сьпіленых дрэў, расьцярушаных крыжоў.

Новых крыжоў ужо ня ў модзе ставіць. Некаторыя могільнікі, як у Куціне, так абголены, як твар старога шляхты. Лясы мясцовага значэньня завуцца месцамі „ўсеагульнага зьнішчэньня“: сякуць, хто што ўздумае, б'юцца за дровы пры размёце дрэў у сельсавеце. Узрастаюць белыя новыя зрубы, але дакончаных хат ня відаць: сівеюць без вакон і дзьвярэй новыя будынкі, абвальваюцца, агаляюцца старэнькія хлявочкі.

Зьнікае стары лад. Выміраюць старыя звычаі і старыя людзі, а новыя яшчэ не выпрацаваліся, не ўсталяваліся, загэтым—у побыце нейкая няпэўнасьць, усякія чуткі замест ведаў, самагон і хуліганства поплеч са ўзростам школ і камсамолу.

Прыехаў дамоў, масьленая, гулянкі, пітво, бабы „цягаюць калодку“. Гэта старадаўны звычай, які зьнікае з нашым пакаленьнем. Цягаюць калодку маладухі, здаецца, толькі на ўсходзе Беларусі: бабы зьбіраюцца гурткамі, прывязваюць на вяроўку дравіну і цягнуць па вуліцы з песьнямі. Усе спатканыя імі мужчыны павінны „адкупіцца“, хто чым можа. На сабраныя грошы ладзіцца агульная гулянка жанатай часткі вёскі. Бабы ўдзельнічаюць у калодцы — усе, а мужчыны толькі тыя, якія адкупіліся ад надзетай бабамі калодкі. На гулянцы напіваюцца бабы, як ніколі, і тады іх ужо цягаюць мужчыны: хто якую ўпадабае. Гэта нейкія беларускія сатурналіі і дзень беларускай сялянкі. Нажаль, мне не давялося запісаць песьні жанчын, якія не асабліва дружаць з бязьвінасьцю.

былі павешаны на пожні, а проста апіраліся на зямлі, з мэтаю лепшага ўцягваньня вільгаці, якая выпарваецца з грунту.

Выраба зямлі павінна быць зроблена сьледам за жнеямі, паколькі магчыма, ў той самы дзень. Гэткая пасьпешнасьць тлумачыцца жаданьнем захаваць у грунце якнайбольшую колькасьць вільгаці, якая пасьля збору збожжа ўлётваецца значна шпарчэйшым тэмпам па прычыне поўнае адсутнасьці аццэпленьня. Выраба палягае на адвярненьні зямлі плугам і прыкрыцьці ўсяго, што пасьля збору збожжа засталося на зямлі, г. знач. пожні і сьметнякоў. Арбу трэба зрабіць магчыма наймялчэй, а дзеля гэтага паколькі можна двускібоўцам, які мелкую арбу зробіць значна лепей, таму што ўтрыманьне дзьвёх цаляў глыбіні пры арбе звычайным плугам і дакладнае выкананьне яе—проста немагчымае, а пры падмозе двускібоўца гэтага дасягнуць можна. На зямлі лёгкай, утрыманай у неблагой культуры, пушчаньне бараны не зьяўляецца абавязковым, тут-жа за плугам беспасрэдна можа пайсьці радавая сеялка і высеяць насеньне.

Пасеў, як ужо сказана вышэй, трэба выпаўніць якнайраней, а дзеля гэтага зараз-жа — найпазьней цераз пару дзён — пасьля збору збожжа. Сеяць трэба радавою сеялкаю; таму што йдзе аб тое, каб насеньне было ўложана на аднолькавай глыбіні, на грунце, някранутым плугам, пад верхнім слоем, зварушаным у часе вырабы, бо гэтак зярняты знойдуць вільгаць, патрэбную для ўсходаў.

Пры ручной сяўбе, як няўхільнае ліха — трэба прытаранваць валкаваньне.

Пасеў рабіць толькі зернем з праверанаю, вядомаю сілаю прарастаньня і, паводле гэтае сілы, трэба нармаваць колькасьць пасеву. Пры сіле прарастаньня лубіну 75 на 100 зярнят, узятых на спробу, трэба высяваць на гэктар у сярэднім 360 кілё (на морг палову гэтага). У выпадках, калі сіла прарастаньня зьяўляецца меншаю або большаю, дык у залежнасьці ад гэтага трэба павялічваць або памяншаць вышэйпаданую орыентацыйную цыфру. Бо йдзе аб тое, каб расьліны ў магчыма нядоўгім часе пасьля ўсходу добра аценілі зямлю і гэткім спосабам захавалі іх ад восеньніх халадоў, а таксама, каб выраслі якнайбуйней, чаму спрыяе ізноў-жа іхняя стуленасьць.

Вельмі пажаданая рэч — даць пад мяшанку невялікую порцыю штучных гнаёў у постаці 150 да 200 кілё 16% супэрфосфату на гэктар, а на слабейшых землях, апрача таго, 150—200 кілё 30% паташовае солі на га. Вышэйпаданыя колькасьці штучных гнаёў мяшанка выкарыстае зусім добра, а пасьля верне іх тэй расьліне, якая йдзе пасьля яе, ў форме, яшчэ больш прысвойвальнай, пры гэтым узбагаціць грунт большаю колькасьцю гнілой зямлі па прычыне буйнейшага росту, як рэзультат пажывы, адтрыманае ў штучных гнаёх.

З мэтаю ўхіліцца ад дадатковае працы, злучанае з прыкрываньнем штучвых гнаёў пры датарноўваньні іх да мяшанак, трэба гнаі расьсяваць проста на пожню перад яе арбою.

Дарэчы будзе ўспомніць, што часта ўжыванае пры сяўбе мяшанак зварушваньне пожняў культыватарамі замест таго, каб араць, не замяняе арбы зусім і ў росьце мяшанак дае горшыя рэзультаты.

---

Моладзь у цяганьні калодак ня ўдзельнічае. У яе свае ігрышчы і вясельлі. Тут ужо прабіваюцца навіны праз маразы старога ладу. Царкоўныя шлюбы радзеюць: усё большых правоў набывае рэгістрацыя ў сельсавеце. Сёлета значна ўзрос увоз нявесты прама з ігрышча бяз ведама бацькоў: проста малец падгаворыць дзеўку і вядзе яе дамоў, пачынаюць жыць „напавер“.

Папы бядуюць, што нечага стала рабіць. Фактычны шлюб заваёўвае вёску, завяліся аматары вельмі частых шлюбаў. Значнай рацыяналізацыі дасягнулі і бойкі мальцаў на ігрышчах і васельлях. Раней проста паролі нажом у бок, білі калом па галаве; сёлета модна пароць кінжалам, ці шавецкім нажом так, каб абавязкова вываліліся кішкі, ці бахнуць з нагана так, каб „палажыць“ на месцы; кольля ня ў модзе, як і старыя скокі. Зараз на ігрышчы гарэзуе вальца і маткін — вольны вясковы пераклад панскага вальсу і матчыша, жыве вясёлая полька, заміраe кадрыля і закруцісты „лянцей“.

Нажаль, не выміраe самагон. П‘юць ад калыскі і да магілкі, „казу дояць“ усе слаі вёскі: беднякі не адстаюць ад серадняка.

Поплеч—шырыцца каапэрацыя: малочная апэрацыя яе дае ўжо значны прыбытак селяніну. У праўленьнях каапэратываў вялігага палепшаньня працы ня відаць: пастарому ўскідваюцца і хутка прыгажэюць хаты-пяцісьценкі членаў праўленьня каапэратываў.

Д. Вітэнь.

А ў Бабруйшчыне нейкі дамарослы поэт натхненна перадае савецкі сельскі быт у вершах, у якіх бачым назовы месцаў дзеяньня і праўдзівыя, як відаць, імёны ды прозьвішчы „герояў“ цяперашняе савецкае вёскі.

Комэнтараў да гэтае творчасьці напэўна ніякіх ня трэба. Перадрукоўваем гэтую творчасьць з аднае бабруйскае савецкае газэты:

Вось зайграю я сягодні на дуду
Пра сялянскую штодзённую бяду...
Разьвялося хуліганаў, што варон
Ім ня цісан, як відаць, заўсім закон.

---

У Замосьці сам лясьнік Васіль Гальмак
Забіць можа чалавека за пятак.
Ўжо занадта любіць п'янства ён, гульню,
А ледзь бойка, зараз хопіць за даўбню
І пайшоў крышыць галовы, хрыбты, косьці,
Ня стрымаць яго нікому ў п'янай злосьці.
Ціту Дробнаму аднойчы ў гульне

## Гаспадарчыя парады.

### Выкарыстоўвайце пожні для гадоўлі птушак.

Калі толькі пазваляюць гаспадарскія варункі, дык трэба выкарыстаць пожні, выганяючы або вывозячы на іх птушкі. Ня толькі гусі й індыкі вельмі добра падпасваюцца на жырных пожнях, але й куры знайдуць там даволі пажывы для сябе. Вось дзеля гэтага, ў рацыянальна вядзеных гадоўлях, ладзяць рухомыя катухі на колах і перавозяць у іх куры на поле. Гэта бяз меры важна для разьвіцьця птушак і карысна для гадавальніка. У б. Расеі вельмі добрыя рэзультаты адтрымлівалі гадавальнікі курэй, якія вывозілі кураняты „на дачы“, як гэта жартам называлася. Пожня дастаўляе нязвычайна рознародны корм, які ў іншых варунках курыцы цяжка здабыць. А што датычыць гусей, дык значэньне пожні для гэтых птушак у нас вельмі вялікае, аб чым сьведчыць „пажнёвая гуска“, якая ў гандлі мае ўжо устаноўленую опінію, і заўсёды знаходзіць ахватнейшых купцоў, як „зялёная гуска“ з благога выгану.

### Жалудзі для птушак.

У багатых дубняком мясцовасьцях трэба ўвосень заняцца зборам жалудзёў, якія зьяўляюцца ня толькі каштоўным кормам для жывёлы, але таксама і для птушак, пасьля высушэньня гэтых жалудзёў, спражаньня іх і зьмяленьня на муку. Даданыя ў постаці мукі да варанае гароднiны, значна паднімаюць вартасьць гэтага корму і памагаюць павялічэньню носкасьці курэй. Ня гледзячы на вышэйназваныя свойствы жалудзёў, іх у нас вельмі шмат марнуецца.

### Што рабіць па гаспадарцы ў Жніўні.

**Земляробства.** Зьбіраць жыта. Сеяць зімовае жыта. Зьбіраць ярыну, грэчку і проса. Зьбіраць травы на насеньне (канюшыну, цімафейку). Рваць лён. Касіць атаву. Пачынаць ворку на „зяб“. Падняць старыя сенажаці для засеву на іх увесну ярыны. Нашыць мяхоў і ачысьціць сьвірны для ссыпаньня збожжа. Пачынаць малацьбу. Абмалочваць і слаць лён.

**Жывёлагадоўля.** Тыя самыя працы, што і ў ліпні месяцы. Падлічыць, колькі трэба корму на зіму.

**Садоўніцтва.** Угнаіць мінэральнымі ўгнаеньнямі дрэвы, на якіх быў вялікі ўраджай, а гэтак-жа старыя і слабыя дрэвы. Падварушыць зямлю каля маладых дрэў і кустоў.

**Птушніцтва.** Пасартаваць кураняты: адабраць на племя самых моцных і буйных. Выбраць на завод добрага пеўня. Найлепей пеўня пакідаць ад курыцы, якая добра нясецца.

### Запаведзі здароўя.

**Дбайце аб чыстаце ў хаце і ў двары,** бо ад бруду ды сьмецьця бывае шмат усякіх хвароб. Са сьмецьцем і пылам падымаецца ў паветра зараза сухотаў; у брудзе заводзіцца і плодзіцца ўсякая зараза (тыфус, крываўка, халера). Клапы, вошы, блохі ня толькі дакучаюць чалавеку, але пераносяць заразу ад хворага чалавека на здаровага.

**Наглядайце за чыстатой свайго цела і адзежы,** бо да іх можа прычапіцца зараза. Не бярэце яды непамытымі рукамі, асабліва, калі вы былі на кірмашы, на сходзе ці наогул там, дзе зьбіраецца шмат людзей. Не хадзеце на хаўтуры і на памінкі ў тую хату, дзе хто-небудзь памёр ад заразьлівай хваробы, таксама дзяцей сваіх туды

---

Зьвезданўў разы чатыры па сьпіне,
Той і сунуўся захропшы зразу ў сьнег,
А яму-ж, п'янчузе, толькі сьмех.

Завялося ў вёсцы Селішчы ігрышча:
Гармонь грае, дзеўкі скачуць, Янка сьвішча.
А Зьмітрук Антось — п'янчуга, хуліган
(Пра запас ў яго за пазухай наган). —
Хрась у зубы тут хлапцу жалезнай гірай.
Канановіч Тодар — добрая задзіра —
Зразу кінуўся, як воўк, у гэты бой.
Ўраз падняўся на ўсю вёску лемант, вой,
Парассыпаліся людзі ад бяды
З паразьбітымі зубамі, хто куды.

———

Ёсьць у Жылічах заядлы хуліган
Дзень і ноч, і ноч і дзень — усё ён п'ян,
Ад яго ўсе уцякаюць, як прусы,
Бо як схопіць ён каго за валасы,
Ды кулаччам, як пачне у бок садзіць —
Папрашчайся зразу з сьветам, бо ня жыць...
Бедным дзеўкам ад Анаха страх пакута
Дзе-та відана, браточкі, дзе-та чута,
Што дзяўчына без яго, бач, дазваленьня
Не пайдзі на вечарынку, на вясельле?

———

— Эх, навошта нам цяперака культпраца
Хай ёй ліха, ўсе хваробы разам з трасцай. —
Парашылі так, і мігам картгурток
Ў вёсцы Шчаткава гудзіць што вечарок,
Пазьбіраецца туды ўся маладзёж
Крыкі п'яныя чуваць, а то галдзёж,
Разьвядзецца, брат, што вушы затыкай,
Культгурток-жа, драмгурток-жа то і знай
Ледзь-ледзь дыша і, напэўна, яму тут
Хутка будзе ўжо запраўдашні „капут“.

У Тарканаўцы ў Яблонскага Міхайлы
Шмат народу панаехала. Спраўлялі
Ці то хрэзьбіны, вясельле, ці радзіны
Я ня ведаю. А толькі абразіны
Былі п'яныя ад мала да вяліка,
Бой падняла нябывалы гэта кліка.
Сталі кідацца талеркамі, гаршкамі,
Біць кулаччам, ў злосьці рэзацца нажамі,
Кроў спусьцілі, шмат набілі ліхтароў,
На карачках папаўзьлі усе дамоў.

———

Гэта толькі, братцы, кветачкі у нас,
Я пра ягадкі сьпяю вам ў другі раз.

Дзед Няфед.

* * *

Гэтыя ягадкі няшчасны савецкі пясьняр перадае нібы свой сон, але-ж надта рэальныя жы-

ня пушчайце. Ня сьпеце на адным ложку і ня ежце з аднэй місы, бо гэтак найхутчэй перадаецца зараза.

Будуйце ў вёсках лазьні, каб была магчымасьць кожнаму вымыць сваё цела хоць раз у месяц. Ад бруду на целе заводзяцца вошы, блохі і ўсякія скураныя хваробы: чухачка, кароста, пранцы і іншыя балячкі. Да нячыстага цела і адзежы лягчэй прыстае ўсякая зараза і плодзіцца на іх.

## ЮРЫДЫЧНЫЯ ПАРАДЫ.

Пытаньне: Мае сваякі па матчынай лініі загінулі ў Расеі. Як урэгуляваць права да спадчыны?

Адказ: Для ўрэгуляваньня права аб спадку служыць закон аб адсутных за 27/І 1922 г. Куратар можа падаць у Акружны Суд, у вокрузе каторага ў апошнія часы згінуўшыя жылі, каб Акружны Суд прызнаў згінуўшую асобу памёршаю. Аднак, такое прашэньне, тады толькі можа мець рэзультат, калі будуць мець месца ўсе варункі, вымаганыя законам, г. знач. толькі такі згінуўшы можа быць прызнаны памёршым, аб каторым ад 10 гадоў няма ніякіх ведамасьцяў і які ў момэнце судовай пастановы, скончыў-бы 31 год. Інакш, толькі такія згінуўшыя асобы могуць быць прызнаны памёршымі, каторыя ад дня поўналетнасьці былі няпрысутнымі 10 год. (art. 46 К.С.Р.) Тэрмін гэны прадаўжаецца на 2 гады, калі ён скончыўся падчас вайны (art. 48 К. С. Р.). Вынятак ёсьць для тых, каторыя прабывалі на абшарах ваенных падзеяў; такія могуць быць прызнаны памёршымі па ўплыве 2 гадоў, лічачы ад канца календарнага году, ў каторым вайна скончылася (art. 49 С. К. Р.).

### Высылка грошай у Расею.

Грошы ў Расею трэба перасылаць цераз польскае Міністэрства Заграніўных Справаў (Дэпартамэнт Кансулярны). У гэнай справе трэба зьвярнуцца пісьменна да Кансулярнага Дэпартамэнту ў Варшаве з просьбай указаць, дзе грошы трэба заплаціць і паводле гэных інформацыяў зрабіць.

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### З клопатаў маладых мацярок.

Адным з паважнейшых клопатаў маладых мацярок зьяўляецца справа выпаражненьняў дзяцей: выпаражненьні гэтыя бываюць альбо вельмі частымі, жыдкімі і трывожаць мацярок самым выглядам (зялёныя, сьлізістыя), альбо наадварот: дзеці выпаражняюцца вельмі рэдка, цераз дзень або праз два дні ў трэці. Гэтае апошняе зьявішча называем завалам. Завалы здараюцца асабліва часта ў дзяцей, якіх кормяць толькі грудзьмі. Выпаражненьні могуць быць пры гэтым добрыя, а перш за ўсё разьвіцьцё дзіцяці бывае зусім правільным: ня гледзячы на завалы, дзеці — вясёлыя, добра сьпяць і вага іхняга цела павялічваецца, як трэба. Гэткія завалы паказваюць, што матчынае малако добра дзяцьмі пераварваецца, што ў кішках застаецца няшмат пажыўных частак, а значыцца — няшмат калу; дзеля гэтага такі стан не павінен быць прычынай матчынай трывогі. Аднак-

---

выя асобы тут дзеюць, каб дагадацца, што песьняроў сон — гэта зусім натуральная савецкая запраўднасьць; вось яна:

Ехаўшы я з гораду,
Накалеўсь на холаду,
І ледзь у хаце апынуўся,
Ўраз да печы пацягнуўся.
Скінуў ўсю сваю адзежу,
І, забыўшыся на ежу,
На чарэні распластаўся,
Сонным марам ўраз аддаўся.
Сплю я, сплю, а мой насішча
Нібы цягнік які сьвішча.
Сьніцца мне, нібы-то я
Ў Лысу Горку па цяля
Езьдзіў к свату у нядзельку
Ды й папаў у перадзелку.
Там-то Лазар Зубракоў,
Пасабраўшы ўсіх братоў,
Учынілі бой-пагром,
Каму колам, кулаком
Зьвезданулі ў макатырку,
Й да мяне знайшлі прыдзірку:
— Ты чаго, старая хара,
Езьдзіш тут?! Паддай-ка пару!
І дручок, нібы бізун,
Ўвысь маланкаю ўзмахнуўся.
З усёй сілы я вільнуўся
Ад вудару... і прачнуўся...
Павярнуўшысь ў другі бок,
(Да чарэні жываток)
Зноў заснуў я сном салодкім.
Вось і сон... У Заглубокім
Нібы я на крыльлях птушкі
Апынуўсь праз хат макушкі,
Праз высокія лясы.
То-то, братцы, чудзясы!
Яшчэ лётая ў паветры
Чуў я ў вёсцы гвалт і енкі
Тут Цярэнціяў Яўхім
Напіўшысь з сынамі ўдым,
Знай, „парадачкі" наводзяць
Ды сялянам вельмі шкодзяць.
І мяне на ўсім хаду —
Хоп! Яўхімка за палу.
Я брыкнуў нагою ў твар,
(Мол, прасьпісь ідзі, адстань).
Так то так, а поўкажуха
Адарваў. З такога зуху
Я, як ўшпілены, з няволі
З сну падскочыў аж да столі.
Пасядзеў хвілінак пяць,
Ўжо занадта клоніць спаць,
І бачочкам павярнуўшысь,
Захроп я, як конь, заснуўшы.

жа, бывае, што дзіця рэдка выпаражняецца і адначасна губляе вагу, худзее—гэта залежыць ад вельмі малое колькасьці корму: дзеці, што галадуюць праз недахоп малака ў грудзёх, — або вяртаюць пасьля ссаньня вялікія колькасьці корму (ваніты), падпадаюць таксама пад завалы; сьцьверджаньне і ўхіленьне запраўднае прычыны завалу можа хутка папраўіць стан дзіцяці.

У дзяцей, што кормяцца штучна, завал залежыць звычайна ад нядобрага корму: кармленьне толькі малаком, недахоп цукру, гароднін, круп і фруктавых сокаў зьяўляецца прычынаю завалу.

У прыпадках завалу, мацяркі даюць сабе раду звычайна самі — бяз лекара; робяць вельмі ахвотна леватыўкі, не заглыбляючыся зусім у тыя прычыны, якія выклікалі завал. Леватыўкі зьяўляюцца нявінным спосабам, але й яны могуць зашкодзіць, калі робяць іх няўмела — ня трэба, напр., пры леватывах ужываць шпрынцовак з цьвёрдым канцом (з косьці), а купляць толькі цэлыя шпрынцоўкі гумовыя, мягкія; канец шпрынцоўкі трэба перад ужываньнем пашмараваць алеем, каб пры ўкладаньні лягчэй уваходзіў і не дразьніў далікатнае абаловкі кішок; вада для леватываў не павінна быць лішне цёплаю, трэба ўцягваць яе ў шпрынцоўку памалу, а перад укладаньнем выпусьціць з шпрынцоўкі паветра. Аднак-жа, здараецца, што нават і найлепей робленыя леватыўкі дразьняць выходную кішку ў уражлівых дзяцей, асабліва калі рабіць іх вельмі часта. Гэткія частыя леватыўкі зьяўляюцца непажаданымі таксама і па тэй прычыне, што кішкі ў дзіцяці, якія дзейнічаюць у прыпадках завалу вельмі лянiва і павольна, робяцца яшчэ больш слабейшымі: пасьледзтвам гэтага будзе альбо прадоўжаньне палажэньня завалу, альбо, нарэшце, і леватыўкі пакінуць дзейнічаць. Дзеля гэтага трэба бароцца з завалам і іншымі спосабамі: дзецям здаровым, якія разьвіваюцца добра, можна даваць, апрача грудзей, па некалькі ложачак (6—8 за раз, 2 — 3 разы ў дзень) варанную ваду, не награваную; можна таксама лагодна расьціраць жывоцік (масаж), пачынаючы ад правага боку і ідучы зьнізу (над пахвінай) да гары і ўлева — ў кірунку паказьніка гадзіньніка; гэткі масаж можна рабіць не раней, як праз 2 гадзіны пасьля яды. Добра дзейнічаюць на пабуджэньне руху кішок сокі з гароднін і фруктаў (з памаранцаў, яблыкаў або морквы), якія даём дзецям ад 3 месяца жыцьця па некалькі ложачак у дзень. У старшых дзяцей (ад 7 месяца) прытарноўваем, апрача сокаў, перацёртыя гародніны, якія таксама памагаюць ухіленьню завалаў. Аднак-жа ў выпадках, калі завалы цягнуцца далей, альбо дзіця разьвіваецца горш, ня трэба адцягваць з адтрыманьнем парады ад лекара, які пастараецца выкрыць прычыну гэтага стану і ўхіліць яе адпаведным спосабам.

(„Kultura")

# Карэспандэнцыі.

## Беларусы гарой!

(Баранавіцкі павет)

У Баранавічах адбыліся выбары ў Аддзел Сойміку.

Аказаліся выбранымі: Дэмбінскі і Кавэцкі — палякі і беларусы: Аўген Міткевіч, Хвэдар Кандратчык, Янка Павядайла і Мароз Вінцусь.

Большасьць складаюць Беларусы. Грыб.

---

Вось хаціна сьніцца мне,
У Сымонаўцы сяле
Так, гнілушка-хата, пхні —
Не зьбярэш і парахні.
У хаціне поўна люду,
Што за ліха, што за цуда?
Проста пальца ня ўпіхнуць,
А яны ўсё, знай, аруць:
„Туз! Валет! Чатыры з боку!
Вашых нет"! Як ў пень гарохам
Крыкі гучна тарахцяць,
Чуць... і грошыкі зьвіняць.
Жлобічы і Міхась Шыла
Тут віднейшы заправіла.
Душна ў хаце, пот цячэ,
Паліць ў горле, ў бок пячэ.
І прачнуўся я з жудою,
То-ж я ўздыхвінай галою
На пякучай чарані
Пражусь, смажусь, бы ў агні.
Ў сьне з пасьцелі, бач, скаціўся.
Шчэ разок я прымасьціўся,
Паабклаў сябе кругом.
Пра случай паленмі дроў,
І заснуў пад самапраху
(Баба прала на рубаху)
Сьніцца мне, у вёску Плёсы
Еду я, скрыпяць калёсы,
Бо ня мазаны з поўгода.
Мне наўстрэчу цьма народу:
Усе дзяўчаткі, як цукеркі,
Каляровыя сукенкі.
А ляцяць, як рой варон.
Ззаду іх—Шкардзюк Рыгор
З другам Чэрнікам Дзям'янам
Першай маркі хуліганам...
У ручышчах, з дзёгцем квач,
А дзяўчатам, хоць ты плач,
У кажынай на спадніцы,
Кохце, хусьце аж іскрыцца
Здаравенны з дзёгцю крыж,
Аж мяне праняла дрыж.
Ўсхамянуўся я ды „шлёг"
Сваю сіўку па раброх,
Каб уцекці з воч хутчэй;
Чую: баба ў бок таўчэ:
— Уставай, каровам дай,
Ды за сьнеданьне сядай!

—

Сон, то сон, а для кагось
Шмат тут праўды, братцы, ёсьць!

Дзед Няфед.

### Вынікі выбараў у валасныя самаўрады ў Віленскім і Палескім ваяводзтвах.

| Нацыянальнасьць | ПАВЕТЫ | | | | | | | | Агулам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Віл.-Троцкі | Сьвянцянскі | Браслаўскі | Дзісьненскі | Вілейскі | Маладэчанскі. | Пастаўскі | Ашмянскі | |
| Палякі . . | 118 | 80 | 117 | 59 | 20 | 24 | 73 | 67 | 558 |
| Беларусы . | 26 | 20 | 43 | 99 | 52 | 57 | 52 | 6 | 335 |
| Ліцьвіны . | 18 | 46 | 4 | 2 | — | — | — | — | 70 |
| Жыды . . | 4 | 8 | 12 | 4 | — | 8 | 2 | 3 | 41 |
| Расейцы . | 1 | 5 | 10 | 6 | — | — | 1 | — | 23 |
| Татары. . | 1 | — | — | — | — | — | — | 1 | 2 |
| Украінцы . | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 2 |

Агулам беларусы здабылі 34% усіх мандатаў. У палескім ваяводзтве беларусы здабылі 143 мандаты, украінцы 527, палякі 114.

Пэўна-ж, што шмат беларусаў сялян увайшло ў самаўрады ад польскіх партыяў. Выбары ў самаўрады, гэта яшчэ адзін доказ, што беларусы такі ёсьць і з імі ўсё-ж такі трэба лічыцца.

### З Горадзеншчыны.

Яшчэ ня ўсюды скончыліся выбары ў валасныя самаўрады. Перадвыбарная агітацыя вялася і вядзецца шпарка.

У Горадле 2.VII. адбыўся конкурс артыстычных трупаў: польскае, беларускае, украінскае і жыдоўскае.

Беларусы паставілі камэдыю „Лекары і лекі". У арганізацыйны камітэт ладжанага конкурсу ўваходзілі прадстаўнікі 4 нацыянальнасьцяў. Публікі на конкурсе было шмат. Першую нагароду адтрымалі жыды, якія згулялі „Гэркулес" бяз суфлёра. Другую нагароду за найлепшую ігру адтрымалі беларусы. Пачын такі грамадзянства з радасьцяй вітае.

## Палітычныя навіны.

### Марская конфэрэнцыя.

Марская конфэрэнцыя трох марскіх дзяржаваў: Англіі Амэрыкі і Японіі не дала пажаданых вынікаў. Мэтай конфэрэнцыі мела быць разбраеньне, а выходзіць наадварот. Ня могучы згаварыцца аб разбраеньні, кожная з гэтых дзяржаваў пачынае зброіцца. Першы прыклад даець Амэрыка, якая будуе новых 17 браняносцаў агульнае паемнасьці 10 тысяч тон. Вось і разбраеньне!

АМЭРЫКА. У Амэрыцы, як і наагул у цэлым сьвеце, протэстуюць проціў выкананьня прысуду сьмерці на двох, як аказалася, нявінных італьянскіх анархістых Сакко і Ванцэтті. Шмат дзе кінуты ў публічныя будынкі бомбы. Паліцыя змабілізована, баяцца разрухаў. Наагул увесь культурны сьвет протэстуе проціў выкананьня прысуду над нявіннымі, якія і так сядзяць ужо 7 гадоў у вастрозе, чакаючы з дня на дзень выкананьня прыгавару.

С. С. С. Р. У Расеі далей шалеець тэрор. З другога боку ходзяць чуткі аб тым, што Саветы стараюцца ізноў навязаць перагаворы з Англіяй. Амэрыканская кампанія купіла нэфту ў Расеі, проціў гэтай кампаніі, вядуць барацьбу іншыя капіталістыя, якія перад вайной улажылі свае капіталы ў нэфтавы промысел.

У Савецкай Беларусі выбухла халера. Халера пашыраецца, дагэтуль памёрла больш як 30 асобаў. Прыняты ўсе меры асьцярожнасьці, каб зараза не дасталася на гэны бок.

ФРАНЦЫЯ. Сэнатар Жувэнэль зрокся мандату дэлегата ў Лігу Народаў, мотывуючы свой крок тым, што Ліга Народаў у сваёй працы адыйшла ад тых вялікіх прынцыпаў і мэтодаў, для якіх паўстала. Яна зрабілася проста экспозытурай 4 вялікіх дзяржаваў.

НЯМЕЧЧЫНА. У Нямеччыне не пакідаюць думак аб новай вайне, якая-б дала адшкадаваньні за страты, якія Нямеччына панясла ў былшай вайне. Тайныя вайсковыя арганізацыі прыгатаўляюць пляны новай вайны, а аружжа выраблюецца ў нямецкіх фабрыках, перанесеных за граніцу: ў Расею, Італію і Гішпанію. 6 нямецкіх лятуноў рыхтуюцца да пералёту праз акіян у Амэрыку.

---

## Паштовая скрынка.

Я. Хаўстовічу. Газэты Вам рэгулярна ад 15.VII высылаюцца. Падайце реклямацыю на пошце.

Я. Кулаку. Газэту высылаем, чакаем корэспондэнцыяў.

Г. Яйсону. Газэта Вам высылаецца акуратна, дамагайцеся ў адміністрацыі турмы.

А. Стэфановічу. Калі памёр малодшы брат, калі выйшла ўдава другі раз замуж? Ці аб дачцы і цяпер няма вестак? Дайце адказ, тады будзем магчы даць параду.

---

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ Выд. Т-ва „Родоп“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.